Hod VIII. Śniežań 1936 h. № 13.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Bielaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 13:



**Да гэтага нумару „Шляху Моладзі“ далучаем „przekazy rozrachunkowe“, якімі просім прыслаць падпіску на „Шлях Моладзі“ за 1937 год.**

**Адміністрацыя „Шл. Мол.“**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Сьнежань 1936 г. | № 13(99). |
|---|---|---|

*М. МАШАРА*

## *ЯКУБУ КОЛАСУ*
### *ў 30-я ўгодкі літаратурнай творчасьці.*

*Трыццаць год песьні і працы,*
*Пройдзена многа дарог.*
*З хаты курной да палацу*
*Шлях не бяз мук і трывог.*

*Новыя плыні і хвалі,*
*Новая форма і лад*
*Сёньня цябе адарвалі*
*Ад шэрых над-Нёманскіх хат.*

*Тут пастарому бруіцца*
*Нёман і хмары паўзуць,*
*З багнаў крынічуць крыніцы,*
*Ветры трывожна пяюць.*

*Сям-там згнілі-спарахнелі*
*На раздарожжах крыжы,*
*Песьні сумуючых жнеяў*
*Далі калышуць ў цішы.*

*Ціша над нашай Краінай, —*
*Хмарная ціша вісіць,*
*Толькі над Нёманам сінім*
*Сьпеў Твой і сёньня зьвініць.*

* * *

*Чым ты ўстрывожана, вёска мая?*
*Сны можа сьняцца благія?*
*Глянь, як прыгожа пакрыла зіма*
*Сьцежкі і стрэхі сівыя.*

*Зморaны вецер на вербе заснуў,*
*Чуць-чуць калышыць бярозы.*
*Я наша гора тапіць панясу,*
*Беды павешу на лозы.*

*Цёмнаю ночкай, як згасьне зара,*
*Стану на варце ля хатаў,*
*Сэрцам маім і душой песьняра*
*Сум твой вялікі засватаў.*

*Бура надойдзе — я поплеч з табой*
*Рады спаткаць навальніцу.*
*Хутка жыцьцё будзе ў нас барацьбой —*
*Сёньня трывога хай сьніцца.*

*Пройдзена многа цярністых дарог, —*
*Пройдзена з торбай жабрачай.*
*Колькі было ўжо мук і зьнямог! —*
*Сёньня пачаць трэ' іначай...*

Вільня, 10.XII.36.

## МАКСІМ ТАНК

# З ПІСЬМА АД АПАЛОНА

*Пара, браточкі, перастаць*
*бляяць як недарэзаным,*
*на месяц рыфмамі пляваць*
*балота ўсюды раскідаць*
*і трыбухі „паэзіі“.*

*Пакіньце вы амурны лук,*
*займецеся лепш працаю!*
*Народу трэба моцных рук,*
*а вам рыфмованы капшук*
*ня зложа дэкларацыі.*

*Калі-ж і пець, дык пець ня так!*
*Не ў рэстаранах з сосамі*
*на „шніцэль“ рыфмаў сыпаць мак,*
*лізаць санэтам ботаў ляк—*
*калі ўсе ходзяць босымі.*

*Народу трэба песьня — плуг*
*з якой ўзараў-бы межы ён;*
*якой-бы мог падняць абух,*
*разьбіць прашкоды цемры ў пух*
*і класьці сьцежкі сьвежыя!*

18. XII. 36.

## Н. АРСЕНЬНЕВА

* * *

*Дождж імжыць ужо некалькі дзён*
*І на сьвеце так нудна і шэра...*
*На асеньні дурны забабон,*
*Як на грыпу, зямля захварэла.*

*Хрыпла плача з-за мокрых вуглоў*
*І трасецца асінавай трасцай.*
*Жоўтай пенай асьлізлых лістоў*
*ў сьвет плюе дзе мага, дзе удасца.*

*Будзе гэтак туляцца й стагнаць,*
*Пакуль лёд не сатне яе сіні,*
*Пакуль сьнежань ня прыйдзе ёй даць*
*Белу, сьнежну аплатку хініны...*

## ЯНКА ЛОСЬ

* * *

*Мы маладыя — і многа нас —*
*І сілы многа мы маем.*
*Дык-жа да працы! У добры час!*
*Родная ніва чакае!*

*Збудзема духа у тых, што сьпяць,*
*Сілу збудзема і волю;*
*Хай пераможаная нашая раць*
*Пройдзе праз ноч і нядолю.*

*З песьняй вясёлай у дружны паход,—*
*Сілу і волю узрушма ў народзе,*
*Сьлёзы асушым ягоны і пот —*
*Нашае сонца усходзе!*

Алесь Рымчук

# ЯКУБ КОЛАС ДЛЯ МОЛАДЗІ.

*(З прычыны 30-х угодкаў Ягонае літаратурнае творчасьці).*

*„Бо хто ў горкай паняверцы*
*Крыж нясе свой, жывучы,*
*У таго ў людзкое сэрца*
*Есьць праўдзівыя ключы“.*

Словы гэтыя, узятыя з коласаўскай поэмы „Сымон Музыка“, маюць глыбокі жыцьцёвы сэнс. Адначасна вельмі добра



ЯКУБ КОЛАС

адносяцца яны да творчасьці самога Коласа, бо ў ей узапраўды „ў людзкое сэрца ёсьць праўдзівыя ключы“. Беларускі народ на шляху свайго духовага жыцьця і барацьбы за лепшую долю выдаў ўжо многа песьняроў, паклікаў многа

духовых правадыроў сваіх, аднак з пасярод іх толькі Якуб Колас і Янка Купала патрапілі так моцна і беспасярэдна прамовіць да „людзкога сэрца“ і павясьці за сабой масы.

З пасярод многіх асаблівасьцяў коласаўскай творчасьці знаходзім у ёй рысы, якія прычыніліся да таго, што пясьняр наш зьяўляецца асабліва блізкім і зразумелым для моладзі, а дзеля гэтага, хоць коратка, над ім задзержымся.

Якуб Колас—гэта перадусім нязвычайна чулы і глыбокі лірык; усе праявы жыцьця беларускага народу і абразы роднае прыроды, як кажа пясьняр у адным сваім вершы, знаходзяць шчыры водгалас у ягоным уражлівым сэрцы. Гэты лірызм Коласа, якім авеена ўся ягоная творчасьць ня толькі лірычная, але ў роўнай меры й эпічная, мае сваё спэцыфічнае адценьне. Ён вызначаецца бязьмежнаю глыбінёй, вялікаю мяккасьцю, лагоднасьцю і пяшчотнасьцю. Дзеля гэтага між песьняром і апісыванымі ім зьявамі і прадметамі завязваецца нітка цеснае сувязі і духовага зрадненьня. Адным словам паэт апісывае ня суха, не об'ектыўна, але ўсё тое, што ён прадстаўляе нам і выражае ў сваей багатай творчасьці, зьяўляецца авееным мяккім і шчырым пачуцьцём аўтара, адухаўляецца яго любоўю і сэнтымэнтам, набірае нязвычайнага чару і хараства. Такім спосабам чытаючы коласаўскія апісаньні, мы глыбока імі захопліваемся і перажываем усе тыя ўражаньні, якія перажываў сам аўтар, пішучы свае творы.

Гэты мяккі і глыбокі лірызм Коласа асабліва ярка выяўляецца ў апісаньні роднага краю: у малюнках і абразох беларускай наднёманскай прыроды. У маляваньне беларускіх краявідаў укладае пясьняр усю сваю душу, малюе іх найпрыгажэйшымі фарбамі, абдарае іх таёмным жыцьцём, зразумелым толькі людзям із чулым сэрцам. Да гэтага ўжывае пясьняр так многа ласкавых і здрабнелых слоў, якія павялічаюць эмоцыянальную вартасьць вобразу. Такім спосабам Беларусь у коласаўскім апісаньні — гэта чароўная красуня, якая атрымлівае высокае мастацкае і эмоцыянальнае выражэньне. Такое нязвычайнае прадстаўленьне роднага краю знаходзім мы ў многіх лірычных вершах Коласа, зьмешчаных у зборніках „Песьні жальбы“ і „Водгульле“, перадусім-жа ў яго высокамастацкіх поэмах „Новая Зямля“ і „Сымон Музыка“, часткава так-жа ў яго прозаічных апавяданьнях і повесьцях.

Але цяжка гаварыць аб гэтай цікавай асаблівасьці коласаўскае творчасьці, не паказаўшы яе хоць на адным прыкладзе. Дзеля гэтага аб яго нязвычайна чулым лірызьме і захапленьні хараством беларускае прыроды пераканаемся на падставе апісаньня вясны ў поэме „Сымон Музыка“:

Надакучыла-ж зіміца!
Прыхадзі хутчэй, вясна:
Ты — крылатая зарніца,
Ты — прызыўная струна,
Ты — дзяўчынка-чараўніца,
Ты прыветна, ты ясна,
Гучнай радасьці паўна;
Ты — надзей і мар злучэньне,

Ты — гром песень, цішыня,
Ты — надзорнае імкненьне,
Ты — прастора — шырыня,
Ты — прыгожасьць — лятуценьне,
Ты — развага — глыбіня,
Усьмех радаснага дня.
Прыхадзі-ж, вясенька-радасьць,
Буйна росамі зазьзяй,
Хай твая краса дабра дасьць
І абудзіць гэты край!

Але ня толькі ў маляваньні характва прыроды выяўляе Колас так многа пяшчотнасьці і мяккага, уласьцівага яму толькі, лірызму. З такім-жа самым захапленьнем і любоўю адклікаецца ён і на ўсе праявы і асаблівасьці жыцьця беларускага народу; падае глыбокае пачуцьцёвае выражэньне імкненьням і парывам масы.



**Якуб Колас у 1908 г**

Гэтая беспасярэднасьць і глыбіня коласаўскае любові, мяккасьць і сьвежасьць ягоных захапленьняў хіба-ж найлепш могуць прагаварыць да душы моладзі і зачараваць яе. Маладасьць — гэта тая найшчасьлівейшая пара, калі мы яшчэ зьяўляемся вольнымі ад жыцьцёвых расчараваньняў і сцэптыцызму, а жывём перадусім пачуцьцёва эмоцыянальным жыцьцём і ўсякія прыгожыя праявы знаходзяць у сэрцы нашым, як і ў Коласа, жывы свой водгалас. І зусім зразумела, што моладзь, дзякуючы сьвежасьці і багацьцю сваей пачуцьцёвасьці, разбуджанай фантазіі і вялікай здольнасьці да ўражаньняў і захапленьняў, знаходзіць у коласаўскай творчасьці як-бы павялічаны абраз сваіх уласных перажываньняў і імкненьняў.

Але ў творчасьці Коласа ёсьць яшчэ іншая асаблівасьць, якая палоніць душы маладых: — гэта ягоныя высокія парывы і імкненьні, асабліва імкненьні да волі, так частыя ўва ўсіх творах песьняра. Колас многа цярпеў за беларускую адраджэнскую працу агулам, а ў царскім вастрозе асабліва, пазнаў людзей, жыцьцё з найбольшымі жудасьцямі і дзеля гэтага ў сваіх творах вельмі часта дамагаецца ён прастору й разгону для сваіх думак і парываў, якім цесна ў створаных чалавекам штучных абставінах. Дзеля гэтага ў яго песьнях

У дарозі.

Меж узгоркоў и курганоў
Сьтежка вузкая мяецца.
Даль нямая і за туманоў
Сироцинаю глядзіцца.
Лес акрыўся тонкой тканьню,
Думкой синей вецца гай,
За крывой, далёкой граньню
У бляску тоне яго край....
Ціш царыць ва ўсім раздольли,
Вся залита сонцэм даль....
И сьтискае душу болью
Не то смутак, не то жаль....
Вецца сьтежка прэд мною,
У даль широкую бяжыць,
То зьвиваецца зьмеёю,
То як стужачка ляжыць.
А я далей ўсё дыбаю
Мяж узгоркоў и раўнин,
И мне шэпча жыта с краю:
„ты адзин, адзин, адзин!“

Рукапіс недрукаванага вершу Я. Коласа напісанага ў Менскім вастрозе ў 1909 г. Колас тады, як бачым, пісаў старым правапісам.

мы вельмі часта спатыкаемся з вострымі пратэстамі супроць агранічываньня прыродных індывідуальных правоў чалавека, як і правоў грамадзкіх, а так-жа правоў беларускага народу і яго творчых здольнасьцяў. Перад песьняром няраз паўстае жудасны абраз крыўды над беларускім народам, прынесенай многавяковай няволяй, якая бязьлітасна зьдзержывала яго духовы развой і зьнішчыла многа вялікіх талентаў. Ідэя волі між іншым вельмі шырака выражаная ў поэме Коласа „Новая зямля“, у якой пясьняр прадставіў сям'ю безьзямель-

ных беларусаў, што, блудзячы вобмацкам вузкімі каляінамі, старающца выйсьці на волю — на шырокі шлях. І сваю поэму канчае ён наступнымі словамі, якія крыюць у сабе глыбокі сымболічны зьмест:

Ой, вы, дарожанькі людзкія,
Пуцінкі вузкія, крывыя!
Вы сьледам цьмяным снуяцеся
І ўсё блукаеце, бы ў лесе.
Вас горне шлях прасторнай плыні
У далягляд ружова-сіні,
Дзе так панадна сьвеціць сонца,
Дзе думка тчэ свае красёнца,
Каб новы сьвет жыцьця саткаць,
Супакаеньне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі...
Прасторны шлях! Калі-ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

Падобныя імкненьні да волі, панятай у найпрыгажэйшым значэньні, вельмі шырока выступаюць у коласаўскай творчасьці і надаюць ёй свой асаблівы адпячатак. Рэч ясная, што найглыбей захапіцца гэтымі парывамі песьняра і найбольш беспасярэдна адчуць іх сэнс і вартасьць можа толькі моладзь, у натуры сваей імпульсыўная, уражлівая і вольная ад халодных вырахаваньняў.

Характэрна, што сам Колас дасканальна зразумеў вартасьць сваей творчасьці для моладзі, калі прысьвяціў ей „як доўг як дар“ свой „скарб... у сэрцы перажыты і росамі абмыты“ — поэму „Сымона Музыку“. Гэтае прысьвячэньне ня было прыпадковым, бо „Сымон Музыка“, як ніякі іншы коласаўскі твор, зьмяшчае ў сабе цэлае мноства мяккага і пяшчотнага лірызму, найглыбейшых і найпрыгажэйшых захапленьняў і ўражаньняў, ёсьць як-бы агульным гымнам волі і паўніні жыцьця, так і асабліва блізкіх і зразумелых для моладзі.

## DZIEŃ BIEŁARUSKAJ KULTURY

13-ha śniežnia sioleta biełaruskaje hramadzianstva ŭ Vilni ładziła Dzień Biełaruskaje Kultury. Dumka sarhanizavańnia hetkaha dnia-śviata paŭstała dziela taho, kab padčyrknuć asablivaje ciapier značeńnie dla biełarusaŭ kulturnaje pracy na rodnaj nivie, a pieradusim dziela naležnaha adznačeńnia jubilejaŭ tych biełaruskich kulturnych arhanizacyjaŭ, ustanovaŭ i asobaŭ, katoryja pryčynilisia i pryčyniajucca da raźvićcia biełaruskaje kultury. Jubilejaŭ hetkich sabrałasia davoli mnoha, bo-ž sioleta minuli 15-ja ŭhodki isnavańnia Tavarystva Biełaruskaje Škoły, 10-ja ŭhodki Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury, 15-ja Biełaruskaha Muzeju im. Ivana Łuckieviča, 20-ja śmierci Ciotki, 10-ja śmierci K. Svajaka, 30-ja ŭhodki litaraturnaje tvorčaści słaŭnaha našaha Narodnaha Paeta Jakuba Kołasa i šmat inšych.

U suviazi z hetym 13-ha śniežnia ŭ zali Litoŭskaje Himnazii im. Vitaŭta Vialikaha ŭ Vilni adbyłasia ŭračystaja akademija-kancert. Nia hledziačy na toje, što ŭvachod na hetuju ŭračystaść byŭ płatny, sabrałasia bolš 600 asob. Prybyli tak-ža aficyjalnyja pradstaŭniki Litoŭcaŭ i Ukraincaŭ.

Akademiju pačaŭ karotkim słovam, ad imia arhanizacyjnaha hramadzkaha Kamitetu, u skład katoraha ŭvachodzili biełaruskija kulturnyja pracaŭniki, paety i mastaki, inž. A. Klimovič. Paśla Ks. Ad. Stankievič skazaŭ pryhožuju i hłybokuju źmiestam pramovu ab značeńni kultury ahułam, ab biełaruskich kulturnych dasiahnieńniach, a taksama ab značeńni Dnia Biełaruskaje Kultury. Dalej u pryhožych słovach vitali Biełarusaŭ, žadajučy pamysnaha raźvićcia biełaruskaj kultury, pasoł Trojan — ad Ukraincaŭ i dyr. Šykšnis ad Litoŭcaŭ. Na pryvitańni hetyja adkazaŭ padziakaj inž. A. Klimovič, katory adnačasna padaŭ telehrafičnyja i piśmiennyja pryvitańni z kraju i zahranicy.

Na hetym była zakončana pieršaja častka ŭračystaści ŭ češć biełaruskaje kultury. Druhoj častkaj byŭ kancert, u časie jakoha vystupali Biełaruski Chor pad kiraŭnictvam hram. R. Šyrmy i vialikaj słavy śpievak, tenar Miłanskaj i Paznanskaj opery, Michał Zabejda-Sumicki pad akampanijament na fortepijanie viedamaha kampazytara praf. K. Hałkoŭskaha.

Ab vystupleńniach hetych naležałasia-b napisać krychu šyrej. Adnak vuzkija bačyny našaha časapisu nie dazvalajuć nam hetaha zrabić, dyk skažam koratka i ščyra, što byli jany sapraŭdy vysoka-mastackimi. Słuchajučy śpievu choru hram. R. Šyrmy možna było zabycca ab usim, a radaść serca raśpirała, što ŭ biełaruskaj pieśni kryjecca tak vialiki i mahutny skarb pryhožaści i čaru.

Hram. Michał Zabejda-Sumicki svaim śpievam davioŭ prysutnych da niebyvałaha entuzjazmu. Jon farmalna zaŭładaŭ dušami ŭsich i začaravaŭ ich miłahučnym śpievam biełaruskich pieśniaŭ. Sapraŭdy možam być hordymi, što kraj naš vydaŭ takoha vialikaha mastaka. (M. Zabejda Sumicki rodam z sialanskaje siamji z v. Šejpiaki, Kosaŭskaha pavietu).

Treba skazać, što vialikija zasłuhi ŭ arhanizacyi kancertu mieŭ i praf. K. Hałkoŭski, jaki strojna harmanizavaŭ biełaruskija pieśni, układaŭ ich i pamastacku akompanijavaŭ.

Za hetyja niazvyčajnyja mastackija vystupleńni biełaruskija dziaŭčaty abdaravali hram. R. Šyrmu, hram. M. Zabejdu-Sumickaha i praf. K. Hałkoŭskaha žyvymi kraskami, a biełaruskaja studenckaja moładź uziaŭšy na ruki M. Z.-Sumickaha nasiła pa zali, bjučy biez kanca vopleski.

Ahułam Dzień Biełaruskaje Kultury byŭ adśviatkavany vielmi ŭračysta i treba žadać, kab byŭ jon pačatkam śviatkavańnia padobnych dzion kožnaha hodu z što-raz bolšym razmacham i pa ŭsim našym kraju, kab biełaruskaja kultura što-raz bolš i bolš raźvivałasia i pahłybłałasia. U kulturnaj-ža pracy nia moža nas ništo zatrymlivać, navat i takija padziei, jak spynieńnie dziejnaści najvialikšych našych kulturna-aśvietnych arhanizacyjaŭ: Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury i Tavarystva Biełaruskaje Školy...

J. N.

М. Мілючанка.

# Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі
## (Алёізы Пашкевічанкі—Кейрыс).

*(У 20-тыя ўгодкі яе сьмерці).*

(Працяг, глядзі „Шлях Моладзі" № 12 сёлета).

На ўступе мусім зазначыць, што літаратурная творчасьць Цёткі — гэта складовая, непадзельная частка яе грамадзкае дзейнасьці, асабліва творчасьць першага пэрыяду. Характар Яе творчасьці перадусім лірычны. Усе духовыя перажываньні Цёткі, ідэалы, за якія яна змагаецца, усе ўражаньні, што прыносяць падзеі бягучых дзён — выліваюцца ў яе на паперы ў форме вобразных, поэтыцкіх твораў. І вось якраз тагды, калі жыцьцё прыносіць пясьнярцы найбольш магутныя ўражаньні і поўныя захапленьня перажываньні, яна пачынае пісаць. Гэта быў 1905 год, калі полымя рэвалюцыі абхапіла ўсю расейскую Імпэрыю.

Ідучы за агульна прынятым падзелам разрозьніваем ў творчасьці Цёткі тры пэрыяды: 1. рэвалюцыйны, 2. нацыянальна-нашаніўскі і 3-ці пэрыяд — выразна індывідуальны. Першыя вершы Цёткі, гэта жывыя абразы, схопленыя з бягучых падзей выбухнуўшай рэвалюцыі. Уражлівая натура Цёткі ўся ахоплена вірам і агнём стыхійнага абурэньня народных масаў, якія дасюль вякамі былі прыгнечаныя рознымі служкамі „каранованых самадзержцаў."

У 1905 г. піша Цётка чарод рэвалюцыйных вершаў, як успомненыя ужо намі: „Хрэст на свабоду," „Мора," „Пад штандарам." Апошнія друкуюцца нелегальна, як мы ўжо казалі, спачатку Бел. Рэвал. Грамадой, а потым паўстаўшай з яе ў канцы 1905 г. Беларускай Социялістычнай Грамадой, а таксама і іншымі партыямі. Дзесяткамі тысячаў лісткоў разыходзяцца гэтыя вершы па ўсей Беларусі. У 1906 г. выходзяць яны таксама ў Львове разам з пазьнейшымі вершамі ў зборнічку пад загалоўкам: „Хрэст на свабоду."

Разгледзім некалькі больш характэрных з іх. Так, верш „Мора" дае магутны абраз рэвалюцыі ў постаці збунтаваных марскіх хваляў. З дзікім шумам рвуць яны бераг, хочуць вырвацца з сваіх межаў. Распаленым сваім дном мора „пазрывала скалы" і „хоча змыць горы." Не зважаючы на ўсе перашкоды, мора зброіць палкі і вядзе іх на бой. Цётка захапляецца веліччу агульнай барацьбы і выяўляе жаданьне згінуць у такім бою:

„Такі бой вякамі жджэцца,  
Такі бой гігантаў дасьць,  
Ў такім баю толькі грэцца,  
Ў такім баю толькі пасьць" —

вось словы, якія, як сталь гартоўная, вырываюцца з вуснаў нашае пясьняркі.

Ізноў у вершы „Хрэст на свабоду“ Цётка вобразна малюе падзеі ў Пецярбурзе пасьля выбуху рэвалюцыі:

„Бомба трах! Сяргей*) у шматы,
Мірскі**) бяжыць аж да хаты,
Цар у страху, сэнат млее,
Беданосцаў***) аж хварэе.“

Народнае абурэньне, якое вякамі зьбіралася, не знаходзячы сабе шляхоў выхаду — вылілася цяпер у хвалях упорнай, зацятай барацьбы, а перадусім ненавісьці да галоўнага віноўніка сваіх мучэньняў — цара:

„З тэй пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея —
Гоняць вон цара—зладзея;
Народ чуе голас з неба,
Што цара больш не патрэба.“

Плястычны абраз аднэй з вулічных дэманстрацый малюе Цётка у вершы „Пад штандарам.“ Вясковы хлапец Вінцуль нясе перад народам чырвоны штандар і зварочваецца да цара з запытаньнем, ці ня годзе ўжо сьлёз і крыві, што ўжо прабіў час расплаты. Загад капітана страляць у дэманстрантаў кладзе трупам Вінцуля, з грудзей якога палілася цурком гарачая кроў. Але сьмерць бясстрашнага юнака не прападае дарма. Яна павялічвае рады дэманстрантаў, прылучае, страляўшых да іх перад гэтым, і патруля і жаўнера.

Ізноў у вершы „Перад новым годам“ Цётка дае агляд жудасных, крывавых падзеяў за мінулы 1905 год. Адначасна яна зазначае, што яшчэ страшнейшы будзе год наступны, у якім аднак народныя масы перамогуць усе варожыя сілы скіраваныя супроць іх „самадзяржаўным сатрапам.“ Веручы ў перамогу, пясьнярка заклікае народ біць у званы і спатыкаць новы год.

Але бягучыя падзеі не зрэалізавалі спадзяваньняў Цёткі. Рэвалюцыя, якая, здавалася, ужо дасягала свае перамогі, змушана была спыніцца Царскі ўрад сілаю войска стрымаў яе далейшы бег. Тагды пачалася бязлітасная расправа з прымаўшымі ўдзел у рэвалюцыйным руху, ува ўсей Расеі запанавала чорная рэакцыя. Усё гэта не магло прайсьці бясьследна ў творчасьці нашае пясьняркі. Пад цяжарам перажываных падзеяў яна на хвіліну як-бы спыняецца і з сумам прыглядаецца да ўсіх праяваў акружаючага жыцьця (в. „Нябывалыя часы“).

Паміма аднак гэтага, сказала-б, мімавольнага прыгнечаньня, Цётка ня хоча верыць, каб ужо запраўды наступіў канец рэвалюцыйнага ўдзелу. Бо-ж за шмат абурэньня, за шмат ненавісьці накіпела ў душах як працоўных масаў усяе Расеі, так і ў чарзе паняволеных народаў, каб яны маглі зложыць аружжа барацьбы і прызнаць сябе пераможанымі.

*) дзядзька цара — Сяргей Александравіч.
**) Сьвятаполк-Мірскі—міністар.
***) Победоносцев—пракурор Сыноду.

Хоць навокал запанавала прыгнечанае маўчаньне, пясьнярка верыць, што гэта цішыня перад новай, надыходзячай бурай. Прыгожы малюнак гэтае веры, гэтага жаданьня новае буры, дае нам Цётка ў сваім вершы „Бура ідзе.“

Не забывае наша пясьнярка і гаротнае долі беларускага селяніна, якому прысьвячае свой сымбалічны абраз— апавяданьне пад загалоўкам: „Прысяга над крывавымі разорамі,“ якое друкуе, як мы ўжо ўспаміналі, у першым нумары „Нашае Долі.“ Стары селянін, Мацей, „згорблены пад цяжкай хмарай невясёлых дум,“ выходзіць сеяць у поле. Крыўдна яму, балюча, што ня можа і на старасьць супачыць, хоць і мае трох дарослых сыноў. Але апошнія не маглі пракарміцца на вузенькім бацькаўскім загоне і пайшлі ў сьвет шукаць кавалка хлеба. Зьняможаны бязупыннай, цяжкай працай Мацей ўпаў на ўзараную ральлю і заснуў. І дзіўны сон прысьніў ён: вялікая грамада сялян зьяўляецца на яго загоне з крыкам: „Вузка! Цесна! Мала!“ І вось „з цьмы народу выходзяць тры сыны Мацея: парабак дворны, салдат і работнік пецярбурскі, становяцца на калені“ перад напоўненымі крывёй разорамі „і голасна прысягаюць — „Мы дамо! Мы—сіла! Мы—права!“ Гэта невялікае апавяданьне малюе нам усё жыцьцё селяніна—малазямельніка, яго вечны голад зямлі. Яно мае ў сабе нязломную веру ў перамогу працоўных, народных гушчаў.

Як ужо ведаем, Цётка, прасьледаваная судовымі ўладамі за працу 1904-5 гадоў, прымушана выехаць заграніцу. І вось тут, на чужыне, далёка ад Беларусі, пясьнярка моцна пачынае сумаваць па родных гонях. Свае ўспаміны дарагіх, далёкіх абразоў, свае настроі і перажываньні вылівае яна ў сваіх творах. Апошнія выходзяць у сьвет у зборніку вершаў пад назовам „Скрыпка Беларуская.“ У вершах, як „З чужыны,“ на чужой старонцы“ Цётка рвецца усею душою туды, дзе густыя бары шумяць над Нёмнам, дзе красуецца між гораў Крывіцкая Мэкка—Вільня і беласрабрыстай істужкай прабягае Вяльля. Прад сумнымі вачыма нашае пясьняркі паўстаюць таксама бледныя, змучаныя працай твары сярмяжнікаў — сялян, якім яна перасылае з чужыны сваё гарачае прывітаньне.

Прыгожыя абразкі роднае прыроды малюе Цётка ў сваім даўгім вершы пад загалоўкам „Лета.“ Чытаючы апошні, атрымоўваецца ўражаньне, як-бы запраўды бачым палі сьпелага збожжа, „прыбранага васількамі,“ чуем шум каласоў, бачым саламяныя стрэхі вёскі, цяжкую працу ў летнюю, гарачую пару: касьбу і жніва. Ня менш вобразна малюе пясьнярка і восень на вёсцы, як заміраньне прыроды на зімовы супачынак, сяўбу азімага збожжа, вясковы кірмаш з усімі яго характэрнымі рысамі (верш Восень). Але

Цётка ня толькі малюе свой сум і абразы роднага краю. Так у вершы „Мае думкі“ яна выказвае моцнае жаданьне стаць ці „зярнём пшаніцы,“ „быстрай рэчкай,“ каб скіравацца ў родны край і прынесьці яму карысьць. Пясьнярка хоча ўсюды думаць аб народзе і даць яму хоць „каплю шчасьця.“

Цётка горача жадае, каб Народ беларускі „даў свой голас,“ заявіў аб сваім існаваньні, аб сваіх правох. Праўда, гэтага голасу яна йшчэ не пачула, але моцна верыць, што беларускі Народ хутка запяе сваю песьню адраджэньня, што вырвецца яна з міліёнаў грудзей:

„Восем... дзевяць і мільён
Грудзей зьліецца ў адзін тон,
Дадуць песьню, а ў ёй труд.
Доля жыцьця. Ці-ж ня цуд?
Ад вякоў мы, браткі, спалі,
Аж тут разам засьпявалі.“
(в. „Вам, суседзі“)

Часы магутнага, рэвалюцыйнага руху, дзе Цётка так актыўна выступала на кожным полі працы, не засталіся бяз сьледу і ў яе нацыянальна-нашаніўскім пэрыядзе творчасьці. Часы гэтыя выкавалі ў нашай пясьняркі энэргію змаганьня, гарт душы, гарачае захапленьне і бязупыннае імкненьне да вызваленьня прыгнечаных. І цяпер, як калісь, вызываецца з-пад Яе пяра сільны верш „Вера беларуса,“ поўны веры ў зьдзейсьненьне вызваленьня беларускага Народу:

„Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту;
Рука цьвёрда! Грудзь акута!
Пара, братцы, парваць пута!“

—вось сільныя акорды, якімі пясьнярка канчае свой верш.

Цётка, як і іншыя нашыя песьняры, заўсёды злучае разам — ідэі нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня Беларусі, ідэі, якія заўсёды йшлі неразлучна поруч па ўсім шляху нашага адраджэнскага руху.

Цікавы йшчэ верш Цёткі „Суседзям у няволі,“ дзе яна ад імя ўсіх сваіх прыгнечаных братоў зварочваецца да суседніх, паняволеных народаў. Яна расказвае ім аб усіх страшэнных мучэньнях свайго Народу і заклікае падаць руку ў супольнай нядолі, каб разам прыступіць да барацьбы з супольным ворагам,

Як у сваей грамадзкай дзеяльнасьці, так і ў поэтыцкай творчасьці не забывае Цётка беларускае жанчыны. Сама выйшаўшы з вёскі, пясьнярка добра магла прыгледзіцца да цяжкое долі сялянкі, да яе непасільнае, бязупыннае працы ад раніцы да ночы, да яе вечных клопатаў. А за ўсё гэта чакала сялянак прадчасная старасьць, крыж „і дзьве дошкі.“ Пясьнярка адзначае ўсе гэтыя мамэнты ў жыцьці пакутніцы—сялянкі і шчыра спачувае ёй, так у сваіх вершах „Вясковым кабетам,“ „Гаданьне.“ Цікавіцца Цётка і жыцьцём жанчыны ў іншых старонках, што бачым з яе „Успамінаў з падарожжа ў Фінляндыі.“

Пяройдзем цяпер да разгляду трэйцяга, апошняга пэрыаду ў творчасьці Цёткі, які мае індывідуальны характар.

Вершы з гэтага пэрыаду друкаваліся пераважна ў „Нашай Ніве," апавяданьні-ж прозай зьмяшчае Цётка ў 1912-13 гадох у „Маладой Беларусі." На ўступе трэба зазначыць, што тэхніка вершаваньня ў гэты час значна палепшылася ў творах пясьняркі. Гэтае палепшаньне мы бачым ужо ў успомненых вершах, прысьвечаных беларускай жанчыне. Зьмест яе твораў выяўляе таксама паважную зьмену. Не малы ўплыў на гэта меў факт, што беларуская адраджэнская праца прыймае цяпер больш спакойны, больш шэры будзённы характар. Яе бурлівы, кіпучы бег, як-бы прыціх, угаманіўся. Ня менш паважную ролю ў павароце пясьняркі у бок індывідуальнага творства адыграў бязумоўна і стан яе здароў'я. Ужо даўно мусела Цётка бароцца з пачаткамі сухотаў, якія дзень за днём усё больш і больш аслаблялі яе арганізм. Нічога дзіўнага, што гэты факт меў прыгнятаючы ўплыў на яе духовыя перажываньні.

І вось ужо ў эміграцкі пэрыад Цёткі, у пэрыад панаваньня нацыянальна-адраджэнскіх матываў, бачым у Цёткі першыя крокі ў кірунку індывідуальнага творства. Зьвястуном гэтага павароту зьяўляецца верш пад загалоўкам „Арлы-брацьця," у якім пясьнярка хоча ляцець разам з арламі ў высь, „бо жыць на зямлі ёй стала горка." Але поруч з гэтымі арлінымі ўзьлётамі ў паднебныя прасторы, бачым у Цёткі ўсё большае і большае пачуцьцё слабасьці, пачуцьцё бязверра ў свае сілы. Пясьнярка прадчувае, што Яе жыцьцё ўжо нядоўгае, што бязлітасная сьмерць хутка паложыць канец Яе працы, Яе імкненьням Але Цётка ня траціць веры ў перамогу Ідэі Вызваленьня, веры, што не надарма Яна працавала для яе ўсё сваё жыцьцё. Прыйдуць новыя пакаленьні, можа больш сільныя і закончаць пачатую ею працу, а песьня іх паўстане „з стотысячнай сілай." І гэту сваю веру выяўляе нам пясьнярка ў прыгожым, мастацкім вершы пад загалоўкам „Грайка," падпісаны яе мужчынскім псэўдонімам, Мацей Крапіўка:

„Граў-бы я многа, ды сіл не хватае,
І рвецца за стрункаю струнка,
Хоць песьня яшчэ не замерла ўдалая,
Хоць родзіцца думка за думкай.

Граў-бы я многа, ды сьмерць кажа:годзе!
У магілку мне ладзіцца кажа...
Эй, рвіцеся струны! Што гэта мне шкодзе?
У магілку супольна мы ляжам!

Можа з тэй ліры вырасьце іва,
З парваных струн—белыя кветкі,
Можа вясною будуць ігрыва
У дрэўца ценю мець дзеткі;

Можа хто з дзетак скруце жалейку,
Унучку паломанай ліры,
І так зайграе, што ўсенька зямелька
Пачуе свой водгалас шчыры.

Дзедавы струны рана парваныя,
Зноў громка азвуцца, як звоны,
Песьня за жыцьця яго недаграная,
У сэрцы унука дасьць плёны.

А на задушкі пад цёмнай івай
Жывое пачуецца слова,
Што песьня ўстала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова!"

Трагэдыю душы Цёткі становіць ня страх перад надыходзячай сьмерцю, але пачуцьцё бяссільля да далейшае актыўнае, творчае працы. У хвіліны зьнямогі яна пачувае сябе ўжо непатрэбнай, лішняй, што прыгожа малюе ў мастацкім, глыбака-псыхолёгічным апавяданьні пад загалоўкам „Лішняя.“ Ня меншым сумам і безнайдзейнасьцю агорнуты Яе апавяданьні, як „Асеньнія лісты“ і „Зялёнка.“

Запраўды, чытаючы гэтыя апавяданьні, як і наагул творы Цёткі з разгляданага намі пэрыаду, ня верыцца нейк, што гэта самая жанчына, некалькі гадоў таму, была сільнай, нязморанай барацьбіткай, з-пад пяра якое выходзілі такія моцныя, гордыя, поўныя агню змаганьня вершы, як „Мора,“ „Пад штандарам,“ „Вера беларуса“ і іншыя. Калі-ж глыбей прааналізуем прычыны зьнямогі, прыгнечаньня, якія агарнулі Цётку, прычыны перадусім духова-псыхолёгічнага плюс вонкавага характару, то зусім добра зразумеем сумныя акорды, якія вырваліся з-пад пяра нашае пясьняркі ў апошні пэрыад Яе творчасьці.

Канчаючы гэты агляд грамадзкае і літаратурнае дзейнасьці Цёткі, дазволю сабе выказаць пажаданьне, каб Яе слаўнае імя было для нас заўсёды сымбалем служэньня Ідэі Вызваленьня, а перадусім, каб было прыкладам, узорам, па якім шляху павінна йсьці сьвядомая беларуская жанчына.

Няхай-жа імя Цёткі будзе тым магутным сьцягам, які горда і сьмела ўздыйме кожная беларуская жанчына.

*К а н е ц.*



# Jak i dzie zdabyvać ziemlarobskuju aśvietu

Našaja viaskovaja moładź — heta pieravažna budučyja kiraŭniki sialanskich haspadarak. Biazumoŭna, dziela viadzieńnia haspadarki, jak i kožnaha varštatu pracy, patrebnaja adpaviednaja vieda, katoruju dahetul zdabyvali my ad svaich starych baćkoŭ, pamahajučy im u pracy. Hetak mahčyma i možna było b žyć dalej, kab haspadarki našyja nie dzialilisia, nia mienšali, dy kab žyćcio stajała na miescy. Dziela taho adnak, što haspadarki ŭściaž mienšajuć i žyćcio idzie napierad, dyk treba staracca vučycca haspadaryć panovamu.

Uvažaju, što treba naŭpierad **mieć na čym**, a taksama **i ŭmieć haspadaryć** i ab hetym apošnim chaču skazać paru słoŭ.

Umiełaści haspadaravańnia, ci lepš ziemlarobskuju aśvietu, možna zdabyć samatuham, jak ab hetym pisaŭ „Šl. Moładzi," pry pomačy adpaviednaje litaratury, a pieradusim ŭ svaich biełaruskich ziemlarobskich školach, katorych my, nažal, nia majem. Ale jość adnak u našym Kraju niekalki pačatkavych ziemlarobskich školaŭ*), u jakich kurs navuki tryvaje 11 miesiacaŭ (pačynajecca 15 studnia, a kančajecca 15 śniežnia).

Praŭda, školy hetyja polskija, ale adnak budučy śviedamym biełarusam, ćviorda stojačy pry svaich nacyjanalnych pierakanańniach, možna da ich zapisvacca i zdabyvać viedu, tym bolš, što prahrama henych školaŭ davoli abšyrnaja i abyjmaje napr. takija haliny: ahulnaja apracoŭka ralli, hadavańnie ziemlarobskich raślin, hadoŭla koniaŭ, karoŭ, aviec, śviniej, husiej, aharodnictva, sadoŭnictva, pčalarstva, małačarstva, kooperacyja, arhanizacyja haspadarak i h. d. Aprača taho adbyvajucca praktyčnyja zaniatki, dy kładziecca vialiki nacisk na rachunkovaść-„kalkulacyju", kab usio haspadaravańnie jšło planova. Usio-ž heta adbyvajecca pad kiraŭnictvam specyjalistaŭ, jakija vučać, vyjaśniajuć, a adnačasna „zmušajuć" dumać ab haspadarcy i haspadaravańni.

Navuka ŭ školach henych darmavaja, treba tolki apłacić košt utrymańnia, ale možna vystaracca časami i stypendyju (zvalnieńnie ad apłataŭ).

Ja, jak absolvent adnej takoj školy, adčuvaŭ raniej patrebu ziemlarobskaj aśviety, a ciapier druhi ŭžo hod pa škole pracuju pry baćku na haspadarcy i baču z hetaha karyść. Uvadžu pravidłovy sievazvarot, racyjanalnaje karmleńnie žyvioły, załažyŭ sad i inš., choć varunki pracy maju vielmi ciažkija.

Dyk, kamu pazvalaje čas i abstaviny, niachaj nie ziavaje, a aśvietu zdabyvaje, bo praz aśvietu kirujemsia na šlach dabrabytu!...

*B. R.*

---

*) u Opsie—Brasłaŭski pav., 2) Łučai—Pastaŭski pav., 3) Bukiškach p. Vilno I, Wil.-Trocki pav. 4) Antanova kala Barun—Ašmianski pav. 5) u Kušalevie, Navahradzkaha pav.

# Месяц Беларускага Студэнта

Ува ўсім бадай сьвеце старэйшае грамадзянства стараецца памагаць студэнцкай моладзі, як маральна так і матарыяльна. Дзеля гэтага ладзяць часта студэнцкія дні, тыдні і месяцы з адпаведнымі імпрэзамі, у часе якіх зьбіраюцца ахвяры на фонд падтрыманьня студэнцкае моладзі. Гэткі вось месяц для беларускіх студэнтаў ладзіць сёлета ў сьнежні адумысловы Камітэт, адозву каторага зьмяшчаем ніжэй.

## БРАТЫ БЕЛАРУСЫ!

Толькі невялічкай частцы беларускай моладзі ўдалося пры сучасных нацыянальна-соцыяльных варунках жыцьця Бел. Народу дабіцца да унівэрсытэцкай лавы.

Але і тая малая жменька шчасьлівых мусіць разам з навукай стала змагацца з нягодамі жыцьця, з заўсёднымі нястачамі, з голадам і холадам, і таму часта ня можа належна разьвіваць свае здольнасьці, паглыбляць сваю веду, каб пазьней магчы нясьці асьвету свайму Народу, тварыць беларускую культуру, беларускую навуку.

Зарадзіць гэтаму ненармальнаму палажэньню можа толькі агульная помач Беларускага Народу, а перадусім беларускай вёскі. Мы знаем агульнае цяжкае палажэньне ўсіх Беларусаў, але трэба помніць, што нават малая помач будзе нам ня толькі падтрыманьнем матарыяльным але, — што важнейшае, вялікім падтрыманьнем маральным.

Сьведамасьць, што мы не пакінутыя на свае толькі сілы, што аб нас памятаюць, дасьць нам многа бадзёрасьці і веры ў перамогу ўсіх нягод і перашкод на дарозе да здабываньня веды.

Дык хай ня будзе ніводнай сьведамай беларускай вёскі, ніводнага Беларуса, які-б не зложыў свой грош на беларускага студэнта!

Хай кожны прыйдзе з помаччу патрабуючай студэнцкай моладзі — будучай культурнай авангардзе Беларускага Народу.

Заклікаем усё Беларускае Грамадзянства і Беларускія Арганізацыі і Інстытуцыі да дзейнай помачы беларускай студэнцкай моладзі.

Ахвяры просім слаць на адрыс: Камітэт Месяца Беларускага Студэнта пры БСС: Вільня, Завальная 1-1, Уладзімер Клім.

*Камітэт Месяца Беларускага Студэнта*
*пры Беларускім Студэнцкім Саюзе ў Вільні.*

## Z KRAJU

### Jak źlikvidavali ŭ nas „Koło Związku Młodej Wsi".

v. Aksiutava, Brasłaŭskaha pav. Paru hod tamu nazad pry pomačy polskich vučycialoŭ u našaj vioscy paŭstała koło „Związku Młodej Wsi", da katoraha była ŭpisvana našaja moładź i pry pomačy katoraha pravodziłasia ŭ nas polskaja rabota. Śviedamaja nacyjanalna biełaruskaja moładź, nia majučy mahčymaści załažyć hurtok svaje kulturna-aśvietnaje arhanizacyi praz niejki čas pačała taksama ŭpisvacca ŭ siabry koła „ZMW" i pry pomačy jaho ładzić biełaruskija pradstaŭleńni, dachod z jakich byŭ vysyłany biełaruskim redakcyjam, jak padpiska za ichnija hazety. Takim sposabam moładź naša pačała pry kole „ZMW" pracavać na nivie rodnaje kultury. Tryvała heta, nažal, niadoŭha, bo administracyjnyja ŭłady „koła" henaje „zaviesili" (spynili jaho dziejnaść), a centrala „ZMW" na Vilenščynu ŭ Vilni zusim jaho źlikvidavała. Ciapier u nas užo niama ani arhanizacyi biełaruskaje ani polskaje. *J. P.*

### Braty, nie astavajciesia!

v. Astrejki, Lachavickaj voł., Baranavickaha pav. Našuju viosku kala Lachavič zaličajuć da samych adstałych u biełaruskim zdradženskim ruchu. I nia dziva, bo moładź u nas zamiest čytać svaje knižki i hazety, pje harełku, ihraje ŭ karty i bjecca. Kali ž niekalki asob pačali viaści svajo žyćcio krychu kulturniej, dyk našyja „dzikuny" ich vyśmiejvajuć. Sołtys-ža starajecca zastrašyć tych, što choćuć čytać biełaruskija knižki abo hazety. Braty Astrejkaŭcy, sapraŭdy stydna dalej tak žyć, bo na nas ŭžo susiedzi hladziać jak na pradpatopnych ludziej. Treba jści napierad, čytać, vučycca i nacyjanalna ŭśviedamlacca!.. *Svoj.*

### Зацікаўленьне беларускім прадстаўленьнямі вялікае.

в. Асташына, Любчанскай вол., Наваградзкага пав. 21.XI сёл. пад кіраўніцтвам нашай настаўніцы ў школьнай залі адбылося беларускае прадстаўленьне. Ставілі „Дзядзьку Якуба" і „Жывы нябожчык". Артысты-аматары ролі свае выканалі добра. Даход пайшоў на кніжкі ў школьную бібліятэку. Зацікаўленьне прадстаўленьнем было вялікае,бо людзі зыйшліся аж з 11-ці вёсак і прасілі, каб беларускія прадстаўленьні адбываліся часьцей. *Я. К.*

### Праца на ніве асьветнай разьвіваецца.

в. Кавалі, М.-Берастaвіцкая вол., Горадзенскага пав. Школьная акцыя ў нас ужо прайшла. Бацькі падпісалі дэклярацыі на беларускую школу, хадзілі прасіць войта, каб пацьвердзіў іхнія подпісы, а калі зрабіць гэта ён адмовіўся, дык дэхлярацыі гэтыя выслалі ў Школьны Сакратарыят у Вільню. Моладзь-жа падпісала заяву да Школьнага Інспэктара з дамаганьнем вячэрніх беларускіх курсаў. Пасьля высланьня

гэтае ьаявы ў Горадню, паліцыя сярод моладзі рабіла допыты. Не чакаючы на рэзультат заявы, мы ўжо прыступілі да самаадукацыі, закладаючы адпаведныя таварыскія гурткі, а да гэтага выпісалі большую колькасьць лемантароў: „Першыя Зярняткі“ і „Пішы самадзейна“. За нашым прыкладам ідуць і іншыя суседнія вёскі. *Кавальчукі.*

---

## Масавыя рэвізіі ў беларусаў у Вільні

У суботу 28 лістапада 1936 г. ад гадзіны 6-ай рана да гадзіны 3-яй па паўдні ў беларускіх інстытуцыях і ў некаторых беларускіх дзеячоў у Вільні тайная і мундуровая паліцыя праводзіла рэвізію шукаючы «broni, amunicji i materjałów wybuchowych».

Рэвізія зроблена, між іншым, у гэткіх інстытуцыях: 1. у рэдакцыі газэты „Беларуская Крыніца“, 2. у Беларускім Каталіцкім Выдавецтве, 3. у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, 4. у Беларускім Студэнцкім Саюзе, 5. у Таварыстве Беларускай Школы. Акрамя таго зроблена рэвізія ў наступных беларусаў: 1. Я. Пазьняка — старшыні Беларускага Народнага Аб‘еднаньня, 2. Кс. Адама Станкевіча — рэдактара „Chryścijanskaj Dumki“, ведамага культурна-грамадзкага беларускага дзеяча, 3. інж. Ад. Клімовіча—старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту, рэдактара «Самапомачы» і „Wiadomości Białoruskich“, 4. у Ад. Дасюкевіча - рэдактара «Беларускай Крыніцы», 5. у Р. Шырмы — сябры Галоўнай Управы Т-ва Бел. Школы, ведамага рэгента Беларускага Хору ў Вільні, 6. у С. Паўловіча—ведамага царкоўнага дзеяча, аўтара цэлага раду беларускіх кніжак і падручнікаў, 7. у мгра Я. Шутовіча — сакратара Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, сябры ЦК-БНА і рэдактара літаратурна-навуковага квартальніка «Калосьсе», 8. у Я. Найдзюка—сакратара Беларускага Народнага Аб‘еднаньня і рэдактара «Шляху Моладзі», 9. др. Я. Малецкага, сябры ЦК-БНА, 10. Альф. Шутовіча — выдаўца «Беларускай Крыніцы», 11. у Я. Багдановіча—выдаўца «Шл. Моладзі», 2. у Аўг. Аніські, 13. у В. Склубоўскага, 14. др. Фр. Грышкевіча, 15. у А. Каткавічанкі, 16. у М. Караленкі і інш.

Падчас рэвізіі забраны, між іншым, да рассьледаваньня: акты Беларускага Нацыянальнага Камітэту, акты Беларускага Народнага Аб'еднаньня і Беларускае Хрысьціянскае Дэмократыі, акты Беларускага Студэнцкага Саюзу, акты Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, акты Таварыства Беларускай Школы, акты Беларуска-Літоўскага Каталіцкага Камітэту, карэспандэнцыі і рукапісы «Беларускай Крыніцы», архіў і адрасы «Самапомачы» і «Wiadomości Białoruskich», «Шляху Моладзі», матар'ялы „Chryścijanskaj Dumki", прыватны архіў і карэспандэнцыю Кс. Адама Станкевіча, Я. Пазьняка, інж. А. Клімовіча і іншых.

Судзьдзя сьледчы паведаміў заінтэрасаваныя установы і асобы, што вышэйапісаную рэвізію „w celu odnalezienia materjału kompromitującego" пастановай з дня 29 лістапада 1936 году зацьвердзіў.

У рэдакцыях: „Роднага Краю", «Беларускага Фронту» і людзей, што каля гэтых часапісаў гуртуюцца, рэвізіяў ня было. *«Бел. Крыніца» № 50 (691).*

---

## Спыненьне дзейнасьці БІГіК і ТБШ

Віленскія адміністрацыйныя ўлады 4.XII.1936 г. спынілі (завесілі) дзейнасьць Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Прад тым-жа — 2.XII.1936 г. — гэтыя-ж улады спынілі дзейнасьць Таварыства Беларускае Школы. Адначасна спынена дзейнасьць гурткоў БІГіК і ТБШ на правінцыі. Перад гэтым у некаторых гуртках БІГіК-у, як напрыклад у Ляхавічах, Баранавіцкага пав., у Жодзішках, Вілейскага пав., паліцыя рабіла рэвізію.

Абедзьвюм гэтым арганізацыям польскія ўлады ставяць, між іншым, закіды, што быццам БІГіК і ТБШ пагражаюць агульнаму спакою і бясьпечнасьці і што ў сувязі з школьнай акцыяй вялі яны не статутовую дзейнасьць.

Галоўная Управа ТБШ і Цэнтральны Урад БІГіК падаюць супроць гэных пастановаў віленскіх адміністрацыйных уладаў рэкурс да вышэйшых уладаў у Польшчы.

# CHRONIKA

## Z biełaruskaha žyćcia

**Biełaruskaja delehacyja da polskaha ŭradu i Mitrapalita Pravasłaŭnaje Carkvy.** Ad 2.XII. da 10.XII. sioleta ŭ Varšavie była delehacyja ad biełaruskaha hramadzianstva, u skład katoraje ŭvachodzili: hram. S. Paŭłovič, dr. St. Hrynkievič i hram. M. Dvarecki. Delehacyja heta adviedała Ministerstva Aśviety, Mitrapalita Pravasłaŭnaje Carkvy ŭ Polščy i šmat roznych vydatnych asobaŭ, jakim pradstaŭlała sučasnaje ciažkoje pałažeńnie biełarusaŭ i prasiła pomačy i abarony.

**Sud.** 12.XII. siol. Vilenski Haradzki Sud za presavyja prastupki zasudziŭ b. redaktara „Bieł. Krynicy" J. Paźniaka na 200 zł. štrafu.

**Raraty.** 8.XII. siol. u Kaściele śv. Mikałaja Ks. A. Stankievič adpraviŭ Raraty na intencyju pracoŭnych biełarusaŭ m. Vilni. U časie nabažенstva chor śpiavaŭ biełaruskija relihijnyja pieśni. Ludziej było poŭny kaścioł.

**Lekcyi ab Mandžuryi.** 29.XI. i 6.XII. siol. a. J. Hermanovič čytaŭ u Vilni, u zali pry Zavalnaj vul. 1—1, lekcyi ab Mandžuryi,z jakoj nia tak daŭna viarnuŭsia. Słuchačoŭ było mnoha.

**Biełaruskaje Kulturnaje Tavarystva ŭ Varšavie.** Biełaruskaja intelihiencyja i rabotniki, jakija prabyvajuć ŭ Varšavie, niadaŭna pastanaviła sarhanizavać tam svajo Biełaruskaje Kulturnaje Tavarystva. U hetaj spravie adbylisia ŭžo arhanizacyjnyja schody i apracavany dy padany ŭžo ŭładam da zaćvierdžańnia statut. Novaj hetaj biełaruskaj arhanizacyi žadajem udačy ŭ pracy.

**Biełaruskija kaladki ŭ radyjo.** 3.I.1937 h. ad hadz. 14 min. 50 Polskaje Radyjo ŭ Vilni budzie nadavać na ŭsie polskija radyjo-stancyi biełaruskija narodnyja kaladki, katoryja vykanaje Biełaruski Chor pad kiraŭnictvam R. Šyrmy.

**Biełaruskaja śpiavačka vystupała na viečary ukrainskaj pieśni.** 6.XII. siol. Ukrainskaja Studenckaja Hramada ŭ Varšavie ładziła „Viečar strilećkoj pieśni", u časie jakoha vystupała, piajučy solo i ŭ chory, biełaruskaja śpiavačka Ž. Čarniaŭskaja, katoraja za pryhožaje vykanańnie ukrainskich pieśniaŭ źbirała bury vopleskaŭ. Ž. Čarniaŭskaja maje vialiki śpiavacki talent i kali budzie pracavać nad saboj, moža stacca słaŭnaŭ artystkaj našaj Baćkaŭščyny.

**Kanfiskaty.** Apošnim časam byli skanfiskavany № 48 „Bieł. Krynicy" i № 2 „Сьветач Беларусі" (carkoŭna-pravapravasłaŭnaha časapisu).

**Aryšt.** Daviedvajemsia, što 7.XII.36 byŭ aryštavany, a 9.XII. zvolnieny bieł. paet S. Chmara, jaki žyvie ŭ Słonimskim pav.

**„Andrejki-Mikołki".** Pad hetkim nazovam 28.XI. siol. Bieł. Studencki Sajuz ładziŭ u Vilni tavaryski viečar z satyraj i krytykaj.

---

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

**Za što byŭ skanfiskaźany № 11 „Šlachu Moładzi“.** Na prośbu čytačoŭ paviedamlajem, što Nr. 11 „Šlachu Moładzi“ byŭ skanfiskavany za viestku, z adpaviednym kamentaram, ab tym, što katalickija ŭłady abiacali dać dla biełarusaŭ katalikoŭ u Vilni kaścioł śv. Hanny i katoraha biełarusy nie dastali. Dumajem, što sprava hetaje kanfiskaty pojdzie ŭ sud, z čaho my budziem zadavoleny, bo tady chiba sprava kaścioła dla biełarusaŭ u Vilni znajdzie naležnaje joj vyjaśnieńnie.

**Biełaruskija hramafonnyja płyty.** Daviedvajemsia, što adna z najvialikšych hramafonnych fabryk u Varšavie maje najhrać cely rad biełaruskich płytaŭ z pieśniami. Treba skazać, što biełaruskich płytaŭ našaje hramadzianstva daŭno ŭžo čakaje.

**Biełarusy ŭ Francyi.** „Chaŭrus“ — arhanizacyja biełarusaŭ u Francyi — sarhanizavała i viadzie kooperatyŭnyja kursy dla biełaruskich emihrantaŭ u Francyi.

**Biełarusy ŭ Amerycy.** Biełarusy ŭ Čykaho (Zł. Št. Paŭnoč. Ameryki) majuć u najbližejšym času naładzić biełaruski kancert.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

**Беларускі Сялянскі Календар на 1937 г.** Выданьне Беларускай Кнігарні „Пагоня“. 112 бачын. Фармат 8⁰. Прыгожая вокладка і вельмі добрая папера. Цана ўсяго 50 гр.

Календар гэты апрацаваны вельмі добра. Мае ён два стылі: каталіцкі і праваслаўны. Усход і заход сонца. Зьмены пагоды і месяца. Беларускія гістарычныя даты. Многа розных календарных вестак. Шмат артыкулаў з галіны сельскае гаспадаркі. Вялікі географічны артыкул аб Беларусах. Многа цэнных парадаў: лекарскіх, праўных земляробскіх і парадаў для рамесьнікаў. Цікавыя парады для земляробаў напісаныя вершам савецкім беларускім пісьменьнікам Паўлюком Трусом, а так-жа інфармацыйны аддзел. Словам, календар вельмі багаты, цікавы і танны, а дзеля гэтага павінен ён быць у кожнай бел. сялянскай хаце. Купіць яго можна ўсюды. Галоўны склад у Бел. Кнігарні „Пагоня“: Вільня, Завальная 1.

Апрача гэтага, выйшаў яшчэ **Беларускі Народна-Гаспадарскі Календар на 1937 г.**, але ён значна меншы і даражэйшы.

Vyjšli tak-ža niadaŭna z druku nastupnyja bieł. knižki:

*L. Hareckaja*—**Rodny Kraj.** Čytanka — školny padručnik. Vydanie VI Kniharni „Nadzieja“. Bač. 96. Far. 8⁰. Cana 1 zał.

*F. Rutkoŭski*—**„Zabojstwa ŭ domie № 37“.** źbiełaruščyŭ M. Š. Fars u 1 akcie. Bač. 16. Far. 16⁰. Wilnia 1936. Cana 30 hr.

*S. Wasilčenko*—**Zyla karalewič.** Pierakład M. Š. Sceničny kaladny abrazok u 1 dziei. Wilnia 1936. Bač. 27. Farm. 16⁰. C. 45 hr.

**„Калосьсе“ кн. 5.** Літаратурна-навуковы часапіс. Бач. 56. Вільня 1936. Цана 50 гр. Кніжка гэта „Калосьсе“ прысьвячана Я. Коласу. Адрыс Рэдакцыі: Вільня, Завальная 1.

**„Беларускі Летапіс** №1, за сьнежань 1936 г. Культурна-грамадзкі і літаратурны месячнік. Бач 26. Фармат 8⁰. Цана нумару 50 гр. Адрыс Рэдакцыі: Вільня, Каралеўская 3—8.

Pierasyłka apłačana ryčałtam

## USIAČYNA

— U Varšavie adbyvajecca ciapier zvyčajnaja budžetnaja sesija polskaha Sojmu i Senatu.

— Pavodle padličańniaŭ na 1.X sioleta Polšč maje daŭhoŭ 4,662,000,000 zł.

— Anhlijski karol Edvard VIII, choć maje 42 hady, dasiul byŭ jašče dziaciukom. Ale voś niadaŭna raptam zachacieŭ žanicca z amerykanskaj 41-na-hadovaj razvodkaj Simpson, katoraja rodam z prostaje siamji. Dziela taho, adnak, što karol u Anhlii, pavodle kanstytucyi, moža žanicca tolki z kabietaj z rodu karaleŭskaha, dyk Edvard VIII zmušany byŭ zračysia karaleŭskaha tronu, a jaho miesca zaniaŭ jahony brat Jury.

— U Maskvie niadaŭna adbyŭsia ŭsiesajuzny Kanhres Savietaŭ, jaki, miž inšym, zrabiŭ niekatoryja papraŭki ŭ novaj savieckaj Kanstytucyi i zaćvierdziŭ jaje.

— U Kitai hien. Čanh-Sue-Lianh padniaŭ bunt suproć pavadyra Kitaju maršała Čan-Kaj-Šeka, katory choča uniezaležnić Kitaj ad čužoj palityki. Adny hazety pišuć, što Čanh-Sue-Lianh padniaŭ bunt za namovaj Savietaŭ, druhija-ž uznoŭ pišuć, što hienerał hety zbuntavaŭsia za namovaj Japonii. Chto praŭdu kaža, niaviedama, ale praŭdaj adnak jość, što jak Japonija tak i Saviety vielmi cikaviacca Kitajem.

— U Hišpanii dabra nia vidać. Chatniaja vajna dalej idzie, a da jaje štoraz bolš miašajucca Niemcy, Italija i Saviety. Apošnim časam bolš ŭdačaŭ majuć staronniki ŭradu. Miž inšym cikava adznačyć, što 19.XII siol. polskija hazety padali telehramu Polskaje Ahiencyi Telehrafičnaje, što suproć fašystaŭ i hien. Franka ichniaha pavadyra vyskazałasia 13.000 baskijskich katalickich ksiandzoŭ (Baski—heta narod niavoleny hišpancami, jaki apošnim časam chutka vyzvalajecca, idučy da svaje niezaležnaści, dy, što z pasiarod hetych ksiandzoŭ 30-ch ŭžo hien. Franko rastralaŭ. Uznoŭža 20.XII siol. tyja-ž hazety padali telehramu, taje-ž samaje Polskaje Tel. Ah., što hišpanski kardynał Goma y Tomas u Rymie śvietapahlad hišpanskich paŭstancaŭ, a hetym samvm i śvietapahlad hien. Franko nazyvaje śvietapahladam chryścijanskim. Voś i zrazumiej, chto bližej da praŭdy i chto bolš trymajecca chryścijanstva: 13,000 baskijskich katalickich ksiandzoŭ ci Kardynał Goma y Tomas.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Svajmu: Piśmo atrymali, dziakujem, karystajem i prosim niezabyvać.

Думнаму: Атрымалі, дзякуем. Справу кніжак перадалі разам са значкамі Кнігарні „Пагоня." З вестак карыстаем. Просім пісаць.

Гарасіму Грышовічу: Вершы Вашы нажаль слабыя і да друку не падходзяць. Пішыце карацей, самастойна і не ад заклікаў пачынайце, а ад апісаньняў прыроды.

Б. Камароўскаму: Карэспандэнцыю друкуем. Вершы, нажаль, слабыя. За фатаграфію падзяка.

Zorcy: Apaviadańnie Vaša davoli cikavaje, adno za mnoha Vy jaho raściahnuli. Budziem staracca, u miery mahčymaści, papraviŭšy jaho nadrukavać. Pišycie bolš.

B. Sie—čuku. Vierš słaby i ani papravić, ani nadrukavać jaho nia možam.

Губку: Вашы вершы слабаватыя, але калі будзеце над сабой працаваць, зможаце лепшыя пісаць. З цяпер прысланых будзем старацца выкарыстаць хоць адзін.

Б. К.: Прысланыя матар'ялы да друку не падходзяць. Пяра аднак ня кідайце і больш працуйце над сабой.